

№ 25 (42)

**Ліпень 2004 года**

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



## 3 ліпеня 1944 — ад фашысцкіх захопнікаў вызвалена сталіца Беларусі



*У вызвалены горад уваходзяць партызаны Мінскага злучэння*

### Усе фарбы лета

У Нацыянальным мастацкім музеі напярэдадні 60-годдзя вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў адкрылася выстаўка “Красуй, Беларусь”. У экспазіцыі выстаўкі творы жывапісу, графікі, скульптуры (усяго каля 80 работ) мастакоў самых розных пакаленняў. Як і мастакоў – сведкаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай: З.Азгура, А.Глебава, М.Савіцкага, В.Цвіркі.

Адбылася таксама доўгачаканая прэм’ера спектакля “Эрык XIV” Аўгуста Стрындберга ў Купалаўскім тэатры. У аснове драмы – трагічная гісторыя кахання шведскага караля Эрыка XIV і дачкі вайскоўца-ахоўніка, якую манарх выпадкова сустрэў у адным з шынкоў Стакгольма.

Так і хочацца заўважыць, што і амаль сорак артыстаў (у ролі Эрыка Алег Гарбуз і Аляксандр Малчанаў), і рэжысёр-пастаноўшчык – народны артыст Беларусі Валерый Раеўскі, і аркестр своечасова пайшлі насустрач духоўным запатрабаванням шматлікіх гледачоў, якія ніколі не былі абыякавымі да самага шчымлівага свайго пачуцця – кахання.

У мінчан цёплыя пачуцці выклікала таксама рэтраспектыва фільмаў шведскага рэжысёра Яна Труэля, якая адкрылася ў кінатэатры “Перамога” паказам кінакарціны “Белы як снег”.

“Я.Труэль з’яўляецца адным з найбольш вядомых кінарэжысёраў Швецыі, поруч з Інгмарам Бергманам і Бу Відэрбергам, – адзначыў на адкрыцці паказу кіраўнік аддзялення ў Мінску Пасольства Швецыі ў Маскве Ян Шадэк. “Я рады, што з яго фільмамі змогуць пазнаёміцца і ў Беларусі”.

11 – 16 чэрвеня ў рамках Дзён культуры Швецыі рэтраспектыўны паказ фільма ў Я.Труэля прайшоў і ў Віцебску.

“Мне выпаў вялікі гонар быць запрошаным у Беларусь на паказ уласных фільмаў,– адзначыў Я.Труэль. – Я рады магчымасці паказаць тут свае работы, а таксама спадзяюся, што змагу пазнаёміцца з вашай краінай”.

Шырокі рэзананс выклікала мінская выстаўка, прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння Ю.Пэна, з прадстаўленымі на ёй амаль дваццацю работамі мастака. Сярод іх – “Снеданне. Аўтапартрэт” (1932).

У экспазіцыю таксама ўвайшлі партрэты-тыпы бывалых віцяблян – “Стары кравец”, “Гадзіннікавы майстар”, “Салдат старой арміі”, пейзажы Віцебска, у якім мастак у 1907 і 1914 гадах праводзіў выстаўкі разам са сваімі вучнямі, дзе ў 1927 годзе атрымаў ганаровае званне заслужанага яўрэйскага мастака Віцебскай акругі і дзе загінуў пры не да канца высветленых абставінах у 1937 годзе.

Пасля заканчэння Пецярбургскай акадэміі мастацтваў у 1895 годзе Ю.Пэн працаваў у Дзвінску (цяперашні Даўгаўпілс, Латвія), Рызе, Крэйцбургу (цяперашні Екабпілс, Латвія), а потым жыў у Віцебску, дзе ў 1897 годзе стварыў Віцебскую школу мастацтваў, у якой вучыліся сусветна вядомыя майстры – скульптар Іосіф Цадкін і мастак Марк Шагал.

У 1918 – 1923 гадах Ю.Пэн кіраваў майстэрняй у Віцебскім мастацкім вучылішчы. У 1939 – 1941 гадах у Віцебску дзейнічала карцінная галерэя твораў Ю.Пэна, у якой экспанавалася каля 800 работ.

Майстар працаваў пераважна ў жанры кампазіцыйнага партрэта, а таксама пейзажа і тэматычнай карціны. У сваёй творчасці Ю.Пэн развіваў рэалістычныя традыцыі рускіх мастакоў-перасоўнікаў. Добра вядомыя яго творы, якія адлюстроўваюць гарадскі быт, высокім майстэрствам вылучаюцца яго партрэты-тыпы і выявы мастакоў.

На днях у Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася прэзентацыя новай кнігі першай лэдзі Кыргызстана прафесара Майрам Акаевай “Зоркі навукі”, якая зараз выдадзена ўжо і ў перакладзе на беларускую мову.

Тут важна заўважыць, што працэс культурнага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі пачаўся яшчэ ў 50-х, калі на кыргызскую мову былі перакладзены творы Янкі Купалы, Змітрака Бядулі і Петруся Броўкі. За апошнія ж гады дзякуючы стараннем Пасольства Кыргызскай Рэспублікі ў Беларусі былі выдадзены тры кнігі кыргызскіх аўтараў.Кніга Майрам Акаевай – чацвёртая. Яна таксама перакладзена на французскую, англійскую і турэцкую мовы, даступна чытачам самых розных краін. У яе ўвайшлі мініяцюры і замалёўкі пра людзей ад навукі, тых, хто не шкадаваў сябе дзеля светлай будучыні. Паводле слоў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Кыргызстана ў нашай краіне Рысбека Качкеева, кніга паступіць у беларускія ўстановы адукацыі.

А зараз пра тое, што, пэўна ж, трызнілася Леаніду Уцёсаву, калі ён спяваў у адной з песень ваеннага часу пра самыя розныя мясціны “От Москвы до Бреста”, – убачыць узнятую з руін Брэсцкую крэпасць. Сёлета, сапраўды, арганізавана прыступілі да аднаўлення мемарыяльнага комплексу “Брэсцкая крэпасць-герой”. Адзін мільярд 950 мільёнаў рублёў – такая сума выдзелена на гэтыя мэты толькі з рэспубліканскага бюджэту.

Мэр Масквы Юрый Лужкоў на аднаўленчыя работы ў крэпасці таксама распарадзіўся выдаткаваць тры мільёны расійскіх рублёў. Яны пойдуць на аплату матэрыялаў, што выкарыстоўваюцца пры рэстаўрацыі. Да трэцяга ліпеня – Дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў – плануецца ўсе работы завяршыць.

## Памятаць дзеля будучыні

І тут найперш трэба заўважыць, што паводле ўказа прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі ствараецца аўтаматызаваны банк даных рэспубліканскай кнігі “Памяць”. Такога унікальнага выдання няма ні ў адной дзяржаве СНД. У яго ўжо занесены імёны больш як 375 тысяч салдат і афіцэраў, мірных ахвяр мінулай вайны. Зафіксаваны таксама каардынаты 5412 пахаванняў. Тут і амаль чатыры тысячы брацкіх магіл, каля 150 воінскіх могілак, 59 месцаў масавага знішчэння людзей. У банк даных заносяцца таксама звесткі аб пахаваннях і часоў Першай сусветнай вайны, магілах воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Звесткі для гэтага чэрпаюцца з архіваў, па лініі абмену інфармацыяй з выдавецтвамі кніг Памяці Расіі, Казахстана і Украіны. Нямала інфармацыі было атрымана таксама ў ходзе раскопак, якія праводзіць 52 спецыялізаваны пошукавы батальён Міністэрства абароны на месцах былых бітваў.

А вось маладзёжнае навучанне і спаборніцтва па тэме “Свет для Еўропы – Еўропа для свету” арганізуе нямецкі фонд “Памяць і будучыня”. На акцыю (мяркуецца, што ўдзельнічаць у ёй будуць школьнікі з Усходняй Еўропы і Ізраіля) выдаткаваны больш як адзін мільён еўра.

Праекты ад школ і маладзёжных груп прымаюцца да 30 чэрвеня. Падрабязную інфармацыю аб мерапрыемствах можна атрымаць на сайтах: www.mitost.de і www.frieden-fuer-europa.de.

## Сумесна ці самастойна?

***Не толькі людзі дзеля сваёй годнасці і прэстыжу, але і аднайменныя гарады з розных дзяржаў імкнуцца адзін да аднаго, завязваюць плённыя стасункі ў самых розных галінах свайго жыцця.***

За прыкладамі хадзіць далёка не трэба. Сёлета, напрыклад, з французскага Брэста, які раскінуўся сваімі жылымі кварталамі на заходняй ускраіне Еўропы, у беларускі аднайменны горад над Бугам прыехаў на веласіпедзе 67-гадовы пенсіянер Клод Лятуш. Ён не толькі пераадолеў 2300 кіламетраў па дарогах кантынента, а і прывёз пасланне ад мэра свайго горада Франсуа Кюйяндра з прапановай наладзіць паміж двума Брэстамі сяброўскія сувязі.

Аналагічныя спробы рабіліся раней па афіцыйных каналах адміністрацый беларускага горада, і гэта, як бачым, дало плён. Першы ж крок з боку французаў аказаўся даволі сімвалічным. Аказваецца, што гарады, размешчаныя ў супрацьлеглых баках Еўропы, не толькі аднолькава называюцца, а і ў адзін і той жа дзень былі вызвалены ад акупацыі – 24 ліпеня 1944 года

Менавіта напярэдадні 60-годдзя вызвалення Беларусі ідэя ўстанавіць сяброўскія сувязі з расійскім горадам-цёзкам з’явілася ў кіраўнікоў нашага Светлагорска. Накіраваная ў Калінінградскую вобласць прапанова знайшла станоўчы водгук. Беларуская дэлегацыя нядаўна наведала расійскі анклаў і прыняла ўдзел у святкаванні Дня горада-пабраціма. Дасягнута дамоўленасць паміж райвыканкамамі і адміністрацыямі аднайменных гарадоў аб падпісанні Дагавора аб эканамічным, культурным супрацоўніцтве. Мяркуецца, што ён будзе падпісаны ўжо ў верасні, калі расіяне прыедуць на Гомельшчыну браць удзел у светлагорскіх святкаваннях. Прымуць у іх удзел і сябры-пабрацімы з Германіі, Вялікабрытаніі, Балгарыі, Малдовы.

*Іван ГРЭБЕНЬ*





## Выключнае выданне

І стане ім двухтомная энцыклапедыя "Вялікае княства Літоўскае", падрыхтоўка якой да друку ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" ідзе поўным ходам з самым уздымам. У гэта фундаментальнае выданне ўвойдуць даследаванні беларускіх, расійскіх, літоўскіх, польскіх вучоных-гісторыкаў. Больш за тры з паловай тысячы артыкулаў, карт, ілюстрацый раскажуць пра дзяржаўнае і палітычнае ўладкаванне, культуру, рэлігію, архітэктуру, гандаль і іншае.

Дарэчы, першы том, як удакладніў вядучы навуковы рэдактар выдавецтва Валеры Пазнякоў, павінен выйсці напрыканцы сёлетняга года, другі – у наступным.

## Удасканаляцца тэхналогіі мытнага афармлення грузаў

У Мінску адбылося IX пасяджэнне кіруючага камітэта Пан'еўрапейскага транспартнага калідора № 2 Берлін – Варшава – Мінск – Ніжні Ноўгарад, на якім абмяркоўвалася яго аднаўленне і далейшае развіццё. Прадстаўнікі Еўрапейскай камісіі, транспартных ведамстваў Беларусі, Расіі, Германіі і Польшчы абмеркавалі магчымасць працягу гэтага транспартнага калідора да Екацярынбурга з выхадам ў Волжскі рэгіён.

Асаблівая ўвага была звернута на тое, што стануць больш удасканаленымі тэхналогіі мытнага афармлення грузаў.

## Нашы віншаванні

Чытачы "Краязнаўчай газеты", безумоўна, ужо добра запомнілі сярод нашых аўтараў імя Міхася Карпечанкі з г.п. Бялынічы, які піша нам часта, грунтоўна і цікава.

Міхась Карпечанка – журналіст, працуе намеснікам галоўнага рэдактара бялыніцкай раённай газеты, ініцыятар розных краязнаўчых дзеяў і аўтар шматлікіх артыкулаў, кніг па краязнаўстве, апавяданняў, а таксама п'ес, якія пастаўлены на сцэнах многіх народных тэатраў.

Нядаўна, улічваючы актыўную і высокапрафесійную літаратурную творчасць Міхася Карпечанкі, Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў аднагалосна прыняла яго ў пісьменніцкі саюз.

**Шаноўны Міхась, віншуем з гэтым высокім даверам да Вас, жадаем здароўя, новага плёну на ніве літаратуры і краязнаўства!**

# Старшына "затрымаў" грамадзянку

А было гэта так. Вярнуўся пасля службы ў арміі Яўген Балук у свой родны Пінск і падаўся ў міліцыянеры-кінолагі. Неяк ішоў ён па горадзе са сваім выхаванцам сабакам Джэкам, як тут і сустрэнься аднакласніца Алена. І затрымаў старшына міліцыі грамадзянку ўсяго на некалькі хвілін. Каб сказаць, што рады яе бачыць. І Алена прызналася, што чакала яго вяртання дадому. Што нават падораныя ім калісьці ў школе манеткі час ад часу падкідвала ўгору, каб выведаць, кахае яе Яўген ці не кахае – арол будзе ці рэшка.

Аказалася, што і ён кахаў толькі адну яе. Дзве дачушкі ўжо ў іх – Вольгачка і Аляксандра. І да нумізматыкі душой і сэрцам дапаў таксама праз сваю любую жонку, каб жа ведаць, а чым ляжа кожная новая манетка, падкінутая яе рукамі, – арлом ці рэшкай. І не проста кожная новая, а як тыя, якія Яўген нярэдка знаходзіць на пясчаным дне Прыпяці.

У нас жа ёсць нагода павіншаваць Яўгена Балука з Пінска з 25-годдзем яго аматарскай нумізматычнай дзейнасці, якой ён захапіўся тады, калі яго старэйшы брат падарыў яму некалькі сярэбраных манет царскай чаканкі. Нядаўна да іх дабавілася яшчэ адна такая ж, якую знайшоў, калі ўскопваў градкі для пасадкі агуркоў на ўласным агародзе. За чвэрць стагоддзя назапасілася даволі ўнушальная калекцыя. З цягам часу яна папоўнілася медалямі, значкамі, рознымі распазнавальнымі знакамі. Іх набіраецца ўжо недзе некалькі тысяч.

Экспанаты дапамагалі збіраць не толькі брат і жонка, а і суседзі, мясцовыя жыхары. Тымі ці іншымі рэдкімі экземплярамі Балук абменьваецца з іншымі калекцыянерамі, якіх толькі ў Пінску жыве чалавек пятнаццаць. У Брэсце таксама яго ведаюць. А наогул, калі ўлічыць, што многія палешукі шукалі па ўсяму беламу свету свайго шчасця, то ў родны Пінск, якому ўжо 960 гадоў, як правіла, вярталіся не з пустымі рукамі.

Нядаўна дзеці прынеслі збіральніку рарытэтаў шаблю напалеонаўскага часу з фірменным кляймом, але без ручкі. Яўген сам зняў слой іржы з клінка, вярнуў яму былую вастрыню і аднавіў эфес.

У калекцыі Яўгена Балука ёсць нават дырхем перыяду Арабскага халіфата (VII – VIII стст.), і ўсё ж галоўнымі экспанатамі сваёй калекцыі ён лічыць распазнавальныя знакі і медалі салдата Шаламіцкага, які служыў у 84-м палку стральцоў палескіх (дыслакаваўся полк у Пінску да 1939 года). Гэта ўнук Шаламіцкага зноў жа палічыў за належнае менавіта Балуку перадаць рэчы, фатаграфіі і граматы аб заканчэнні яго дзедам падафіцэрскіх курсаў.

Але ці мог бы аматар-нумізмат справіцца са сваёй такой унікальнай гаспадаркай без жонкі Алены? Ды наўрад. Яна з ім заўсёды побач. Каля Прыпяці перад падводным паляваннем за затанулымі скарбамі ёй трэба дапамагчы свайму любімаму мужу надзець маску і ласты. І блаславіць на ўдачу. Так што бывае, што за адзін трохкіламетровы рэйд уніз па рацэ Яўгену ўдаецца знаходзіць па 10 – 15 манет.

*Іван ГРЭБЕНЬ*

## Краязнаўчыя чытанні

# Сустрэча навукоўцаў і свята ў раёне

20 чэрвеня гэтага года ў Пяршайскай СШ (Валожынскі раён) паспяхова прайшлі V Міжнародныя Ракаўскія чытанні (выязныя), прысвечаныя разгляду розных аспектаў творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча ў сістэме міжславянскага культурнага ўзаемадзеяння. Гэтымі Чытаннямі была адзначана 120-я гадавіна з дня смерці пісьменніка. Разам з тым яны – першае значнае мерапрыемства ў шэрагу захадаў па падрыхтоўцы да святкавання 200-ай гадавіны з дня нараджэння першага класіка новай беларускай літаратуры, якую мы будзем святкаваць у 2008 годзе. Праблемнае поле іх ахоплівала шэраг актуальных пытанняў: *Творчасць В.Дуніна-Марцінкевіча ў кантэксце еўрапейскіх літаратур: тыпалогія, рэцэпцыя, мастацкі пераклад; Творчасць В.Дуніна-Марцінкевіча і шляхі самавызначэння беларускага народа; В.Дунін-Марцінкевіч і праблема беларуска-польскай бікультурнасці; Вывучэнне творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча ў сярэдняй школе і ВНУ; Валожыншчына ў жыцці і творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча; Мясціны В.Дуніна-Марцінкевіча як фактар літаратурнага краязнаўства і чыннік міжнароднага турызму.*

На Чытаннях (на пленарным і на трох секцыйных пасяджэннях) з дакладамі выступіла звыш 30 чалавек. Сярод іх – вядомыя марцінкевічазнаўцы – Уладзімір Мархель, Уладзімір Содаль, Язэп Янушкевіч, дактары філалагічных навук Святлана Ганчарова-Грабоўская, Таццяна Дасаева, Віктар Іўчанкаў, Галіна Тычка, Мікола Хаўстовіч, Таццяна Шамякіна, кандыдаты філалагічных навук Ірына Багдановіч, Анатоль Верабей, Тэрэза Голуб, Ігар Запрудскі, Таццяна Кабржыцкая, Міхась Кенька, Павел Навойчык, Усевалад Рагойша, Ніна Рашэтнікава і інш. З увагай і зацікаўленасцю былі ўспрыняты выступленні замежных удзельнікаў – Марыі Якубоўскай (Львоў), Васіля Бондара (Кіравагград), Юкі Маліннена (Фінляндыя) і Міколы Паўловіча (Латвія). Цэзарый Марцінкевіч (Чэнстахоў, Польшча) не мог прыехаць на Чытанні па аб'ектыўных прычынах і даслаў стэндавы даклад.

Цёплымі воплескамі было сустрэта адмысловае прывітанне ўдзельнікам Чытанняў міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандра Радзькова, якое зачытаў дарадца міністра В. Іўчанкаў. Словы "хто, як не валожынцы... павінны абудзіць рэспубліканскую грамадскую думку, нагадаць пра недалёкі ўжо юбілей пісьменніка" з разуменнем адгукнуліся ў сэрцах усіх, хто прысутнічаў у гэты час у зале Дома культуры, дзе праходзіла пленарнае пасяджэнне канферэнцыі.

Асаблівасць краязнаўчых Ракаўскіх чытанняў у тым, што яны, захоўваючы свой набыты міжнародны ўзровень, надзвычай набліжаныя да свайго адрасата: праводзяцца ў сельскай мясцовасці, сярод вясковага люду. Сярод удзельнікаў – настаўнікі, вучні старэйшых класаў, мясцовая інтэлігенцыя. Прычым, гэта не толькі слухачы, але і выступоўцы. Так, сёлета з цікавымі паведамленнямі выступілі настаўнікі з Валожынскага раёна Ганна Кужоўнік, Людміла Страчынская і Людвіка Таўгень. Усе даклады і паведамленні былі змястоўныя, грунтоўныя, з элементамі новых знаходак і адкрыццяў. Яны складуць яшчэ адну яскравую старонку ў вывучэнні і прапагандзе творчасці аўтара "Пінскай шляхты".



*Тупальшчына. Пасля ўскладання кветак да магілы*

Трэба сказаць, што гаспадары Чытанняў – а гэта Пяршайская сярэдняя школа, сельсавет, сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў, Валожынскі райвыканкам на чале з яго старшынёй Іванам Станіслававічам Маркевічам – зрабілі ўсё магчымае, каб навуковая канферэнцыя прайшла на высокім узроўні. Удзельнікаў Чытанняў сустрэлі на мяжы Валожынскага раёна хлебам-соллю, кветкамі, беларускімі песнямі (у выкананні раённага мастацкага калектыву "Свята"), а потым наладзілі экскурсію па мясцінах В. Дуніна-Марцінкевіча – у знакамітую Люцінку і Тупальшчыну (там пахаваны пісьменнік). Вялікі дзякуй трэба сказаць настаўніцкаму калектыву Пяршайскай СШ, які зрабіў усё мажлівае для паспяховага правядзення навуковай часткі канферэнцыі. Увогуле, адчувалася, што Чытанні – свята і школы, і мястэчка Пяршаі, і ўсяго Валожынскага раёна. Святочны настрой перадаўся і вучоным, якія прыехалі, абумовіўшы ў значнай ступені пафас выступленняў.



*Люцынка, на месцы былой сядзібы В. Дуніна-Марцінкевіча*

У канцы Чытанняў іх удзельнікі адзінадушна прынялі выніковую рэзалюцыю. Думаецца, з ёй будзе цікава пазнаёміцца і чытачам газеты. Удзельнікі Чытанняў палічылі неабходным:

**1.** Ухваліць арганізацыю і навуковыя вынікі V Міжнародных Ракаўскіх чытанняў і надалей практыкаваць іх перыядычнае правядзенне (у тым ліку – выязную форму).

**2.** Выказаць падзяку Аргкамітэту Чытанняў, Валожынскаму райвыканкаму, Пяршайскім СШ, сельсавету і сельскагаспадарчаму вытворчаму кааператыву – за выдатную іх арганізацыю і правядзенне, філалагічнаму факультэту БДУ і Грамадскаму камітэту Ракаўскіх чытанняў – за высокі ўзровень навуковай часткі канферэнцыі.

**3.** Надрукаваць матэрыялы Чытанняў асобнай кніжкай.

**4.** Звярнуцца ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з просьбай адбудаваць у Люцінцы колішні дом В. Дуніна-Марцінкевіча і стварыць на яго аснове Дом-музей пісьменніка.

**5.** Звярнуцца ў Мінскі гарвыканкам з прапановамі: а) да 2008 года ўстанавіць у Мінску ў скверы каля Ратушы помнік В. Дуніну-Марцінкевічу і С. Манюшку; б) пры праектаванні гасцініцы "Еўропа" ўлічыць той момант, што частка гасцініцы будзе знаходзіцца на месцы непрадумана знесенага ў 1984 годзе будынка тэатра, дзе ставіліся оперы С. Манюшкі на лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча; адпаведна, найбольш прымальны выхад – "упісаць" у інтэр'ер новай гасцініцы асобныя элементы былога тэатра, засведчыць у гасцініцы прысутнасць "духу" нацыянальнай гісторыі і культуры (праз розныя формы).

**6.** Звярнуцца ў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь з прапановай уключыць у планы дзяржаўных выдавецтваў: а) акадэмічны Збор твораў пісьменніка; б) манаграфію і фотаальбом пра яго жыццё і творчасць; в) вялікафарматны партрэт пісьменніка; г) юбілейныя маркі і канверты.

**7.** Распрацаваць турысцкі маршрут "Валожыншчына: гісторыя і сучаснасць", удзяліўшы ў ім асноўную ўвагу мясцінам, звязаным з жыццём і творчасцю В. Дуніна-Марцінкевіча.

**8.** Прапанаваць Івянецкай гарпасялковай уладзе, Пяршайскаму і Ракаўскаму сельвыканкамам пры забудове новых вуліц надаць ім імя В. Дуніна-Марцінкевіча. Звярнуцца ў адпаведныя інстанцыі з прапановай аб наданні імя В. Дуніна-Марцінкевіча Пяршайскай СШ, Валожынскай раённай бібліятэцы, Пяршайскаму народнаму тэатру.

**9.** Устанавіць у Валожыне помнік В. Дуніну-Марцінкевічу.

**10.** Пры ўстаноўцы помніка Ракаўскаму шляху на мяжы Валожынскага і Мінскага раёнаў улічыць факт неадназовага падарожжа па гэтым шляхам і В. Дуніна-Марцінкевіча.

**11.** Звярнуцца ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай распрацаваць і зацвердзіць спецыяльную юбілейную Праграму па святкаванні 200-годдзя з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча.

Будзем спадзявацца, што думка ўдзельнікаў V Міжнародных Ракаўскіх чытанняў будзе з увагай успрынята тымі, хто ў адпаведнасці са сваёй пасадай адказвае за добры стан беларускай культуры.

***Вячаслаў РАГОЙША, намеснік старшыні Аргкамітэта Ракаўскіх чытанняў, прафесар***

***Фота Міхася КЕНЬКІ***





*Школьнае краязнаўства*

# Няма абыякавых назіральнікаў на сустрэчах з Подзвігам

***Вывучэнне родных мясцін і гераічнай мінуўшчыны навучальнымі ўстановамі Беларусі вырашаюцца рознымі шляхамі, выкарыстоўваюцца шматлікія формы і метады. У якасці прыкладаў хачу разгледзець найбольш удалыя моманты арганізацыі такой працы ў сярэдняй школе № 1 г. Мар'іна Горка і Мінскім дзяржаўным палітэхнічным каледжы, не прэтэндуючы на канчатковую распрацоўку дадзенай праблемы.***

***У прыведзеных прыкладах прысутнічаюць значна важныя элементы выхавання: наведванне музеяў (краязнаўчага і партызанскай доблесці); вывучэнне ваеннага мінулага края; наведванне гістарычных помнікаў; сустрэчы з былымі ўдзельнікамі і ахвярамі генацыду; ахова магілак партызанаў і ахвяраў генацыду, іх догляд і ўскладанне кветак; умацаванне фізічнай падрыхтоўкі моладзі, развіццё ў ёй навыкаў стойка пераносіць усе цяжкасці і нягоды паходнага жыцця.***

Напярэдадні мерапрыемстваў была праведзена вялікая падрыхтоўчая праца па іх дакладнай арганізацыі. Сюды ўваходзілі размовы з вучнямі аб мэтах і задачах будучых паездак (паходаў) па гістарычных мясцінах, камплектацыя групы і размеркаванне абавязкаў яе ўдзельнікаў. У групе не можа быць пасіўных назіральнікаў падзей, кожны мусіць выконваць актыўную маральную, арганізацыйную і фізічную нагрузку. Абавязкова ў групе павінен быць фатограф, каб зазняць найбольш важныя этапы наведвання (помнікі, могілкі, сустрэчы з ветэранамі і сведкамі падзей і падобнае).

Пасля вяртання ў навучальную ўстанову падводзяцца вынікі здзейсненай паездкі (пахода).

Кіраўнік адзначае выкананне пастаўленай мэты мерапрыемства, прапануюе шляхі выкарыстання вынікаў і здабыткаў у навучальным працэсе, падрыхтоўкі экспанатаў для музея ўстановы. Па матэрыялах паездкі (пахода) выходзіць насценгазета.

Напярэдадні 60-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй беларуская моладзь аддае даніну павагі старэйшаму пакаленню, на іх вопыце вучыцца гераізму і стойкасці ў барацьбе з жорсткім ворагам.

У канцы мая адбыліся выязныя заняткі краязнаўчай школы пры Гістарычнай майстэрні ў Мінску, прысвечаныя ахвярам генацыду ў Пухавіцкім раёне.

Праводзіў заняткі настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 1 Мар'інай Горкі Барыс Муха, прысутнічалі настаўнікі школ раёна, вучні і запрошаныя госці з райцэнтра, Мінска і вясковых школ. Дзякуючы намаганням інспектара І. Комлач, перамяшчэнне групы і кіраўніцтва было арганізавана выдатна. Удзельнікі заняткаў выязджалі на выдзеленым для гэтага аўтобусе ў мясціны, звязаныя з вывучэннем гісторыі генацыду ў Пухавіцкім раёне.

Заняткі пачаліся з наведвання брацкай магілы расстраляных фашыстамі яўрэяў ва ўрочышчы Папова Горка каля вёскі Блонь. Дырэктар раённага краязнаўчага музея А. Прановіч расказаў гісторыю стварэння гета ў раёне і расправы над вязнямі. У Мар'інай Горцы 22 верасня 1941 г. было расстраляна каля 1000 мірных жыхароў-яўрэяў. Пазней тут, на Паповай Горцы, расстрэлы яўрэяў працягваліся, колькасць ахвяраў у гэтай брацкай магіле – 1260 чалавек. У Рудзенску фашысты расстралялі 360, у мястэчку Узляны – 375, у вёсцы Задашчаны – 300 чалавек. Удзельнікі заняткаў хвілінай маўчання адзначылі памяць ахвяраў генацыду і паклалі кветкі на брацкую магілу.



Потым група накіравалася ў раённы краязнаўчы музей, які знаходзіцца ў вёсцы Блонь. Яго дырэктар правёў змястоўную экскурсію па залах музея, дзе багата прадстаўлены экспанаты па гісторыі Пухаўшчыны. Тут добра адлюстраваны і ваенны перыяд, на шматлікіх стэндах сабраны вялікі фактычны і дакументальны матэрыял па гісторыі партызанскага руху ў раёне. Усё гэта выклікала глыбокую зацікаўленасць прысутных.

Далей шлях ляжаў у вёску Парэчча. Яе жыхары падчас вайны здзейснілі подзвіг, ратуючы яўрэйскіх дзяцей, якія збеглі з Мінскага гета. Група сабралася каля помніка-стэлы з надпісам:

"У гэтых мясцінах у гады Вялікай Айчыннай вайны дзейнічала партызанская брыгада імя Калініна (сарокінцы)".

Каля стэлы выратаваныя ў час вайны дзеці, сёння ўжо сталыя людзі, у 2000 годзе ўпадзяку за здзейснены подзвіг паставілі яшчэ адзін помнік з 40 падсвечнікамі – па колькасці выратаваных у час вайны яўрэйскіх дзяцей. Помнік набыты за кошт асабістых сродкаў М. Крапінай і Ф. Рэйзман. На ім надпіс:

"У час Вялікай Айчыннай вайны 1941–44 гг. жыхары вёскі Парэчча здзейснілі подзвіг, ратуючы яўрэйскіх дзяцей, якія збеглі з Мінскага гета.

Ад выратаваных".

Аўтар помніка – Віталь Пятровіч Кавалевіч, унук М. Крапінай.

Мая Ісакаўна Крапіна расказала аб падзеях ваеннага часу, пра тое, як амаль дваццаць дзяцей, у тым ліку і яна, збеглі з Мінскага гета і пехатою, пераадолеўшы больш за 60 кіламетраў, дабраліся ў гэту вёску. Тут дзейнічаў партызанскі атрад пад камандаваннем Лапідуса. Глухія месцы, балоты, а таксама дабрыня мясцовых жыхароў выратавалі гэтых дзяцей і тых, што патрапілі сюды пазней (усяго 40 чалавек), ад непазбежнай смерці. На тых, хто выжыў, ляжыць адказнасць за захаванне ў памяці людзей подзвігу мясцовых жыхароў. Яны, рызыкуючы сваім жыццём, уласнымі дзецьмі, аддаючы апошні кавалак хлеба, ратавалі гэтых дзяцей да вызвалення раёна Савецкай Арміяй. Мая Ісакаўна расказала гісторыю стварэння помніка і што яшчэ плануецца стварыць каля яго.

Выступіла віцэ-прэзідэнт Мінскага дабрачыннага таварыства "Гілф" Фрыда Вульфаўна Рэйзман. Яна акцэнтавала ўвагу прысутных на унікальнасці гэтага помніка, які ведаюць за мяжой. І заклікала захоўваць яго для нашчадкаў, а таксама выказала ўдзячнасць былому настаўніку з Парэчча Міхаілу Іванову, які прысутнічаў тут жа, і вучням Амяльнянскай школы за клопат па ахове помніка. На выязныя заняткі школы завітала старшыня Сяліцкага сельсавета А. Каляда.

Людзі, якія сабраліся, уважліва і з цікавасцю слухалі расповеды сведкаў гістарычных падзей, паклалі кветкі да помніка.

Пакінуўшы Парэчча, госці вярнуліся ў Амельна, дзе іх вельмі прыязна сустрэла дырэктар сярэдняй школы Раіса Дамасевіч. Госці мелі магчымасць пазнаёміцца са школай і ў іх гонар быў арганізаваны сціплы фуршэт, на якім госці і гаспадары мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца між сабою.

***Мікалай ГУРЫН,***
***краязнаўца, г. Мар'іна Горка***

**На фота:** помнікі ахвярам генацыду ў Парэччы і на Паповай Горцы



# Месца краязнаўства і дзяржаўнай
## Беларусі, Расіі, Украіны

***Краязнаўства заўжды садзейнічала выхаванню ў насельніцтва краіны патрыятызму, інтэрнацыяналізму, грамадскіх якасцяў, узбагачала яго духоўную культуру. Аналіз краязнаўчага руху паказвае, што людзі, якія прымаюць актыўны ўдзел у лакальных даследаваннях, мерапрыемствах па ахове помнікаў, стварэнні музеяў, больш глыбока пазнаюць мінулае і сучаснае сваёй краіны. Пашыраецца культурны кругагляд, фарміруецца светапогляд, паглыбляецца пачуццё любові да сваёй Радзімы, павага да традыцый, гісторыі свайго народа. Развіццё гістарычнай навукі краіны складаецца з шэрагу лакальных даследаванняў пэўных мясцовасцяў. Цікава разгледзець, якое месца займала гістарычнае краязнаўства ў гістарычнай навуцы і грамадскім жыцці ў краінах былога СССР (Беларусь, Украіна, Расія). Разам з тым цікава прааналізаваць, якое месца краязнаўства займала і займае ў дзяржаўнай ідэалогіі гэтых краін.***

Беларуская гістарычная энцыклапедыя дае наступную фармулёўку краязнаўству: гэта ўсебаковае вывучэнне пэўнай часткі краіны, горада ці вёскі, іншых паселішчаў мясцовым насельніцтвам, для якога гэта тэрыторыя лічыцца родным краем.

Э. М. Загарульскі вызначае гістарычнае краязнаўства як адзін з раздзелаў агульнага краязнаўства, задачай якога з'яўляецца пазнанне тых ці іншых гістарычных з'яў, падзей, працэсаў, якія адносяцца да розных этапаў гісторыі краю, на аснове пісьмовых і рэчавых крыніц, вывучэнне жыцця і дзейнасці выдатных палітычных, дзяржаўных, ваенных дзеячаў, народных герояў, дзеячаў навукі, літаратуры і мастацтва.

Даследчык літоўскага савецкага краязнаўства К. Й. Рачкаўскас разумее пад краязнаўствам грамадскі навуковы рух, які даследуе на добраахвотных пачатках прыроду і сацыяльнае жыццё невялікіх мясцовасцей, прымае ўдзел у ахове і выкарыстанні гісторыка-культурнай спадчыны.

Старшыня Саюза краязнаўцаў Расіі, акадэмік С. О. Шмідт так вызначае паняцце краязнаўства: "Краязнаўства – гэта і навука, і навуковая, і навукова-папулярызатарская дзейнасць пэўнай праблематыкі: мінулае і сучаснае якога-небудзь "краю" (мясцовасці); гэта і метад пазнання ад асобнага да агульнага, выяўленне агульнага і адметнага, і метад, які абапіраецца, звычайна, на міждысцыплінарныя навуковыя сувязі".

М. Каспяровіч – "тэарэтык" беларускага савецкага краязнаўства ў 20-я гады XX стагоддзя, даў дэфініцыю, якая лічылася класічнай на свой час. **Краязнаўства – гэта ўсебаковае пазнанне краю ў яго мінулым і сучасным стане, якое вядзецца спецыяльна для гэтага арганізаванымі коламі насельніцтва са свядома пастаўленай мэтай змены краю на сваю карысць.** Такім чынам, савецкае краязнаўства, на думку Каспяровіча, адрозніваюць наступныя ўласцівыя рысы: а) добраахвотна і свядома пастаўленыя мэты пазнання краю; б) арганізаваны калектыў для ажыццяўлення гэтай мэты; в) змены краю на сваю карысць. Каспяровіч акцэнтаваў ўвагу на навуковасці, асветным і практычным характары краязнаўства. Выдзяляў ведамаснае, аматарскае навуковае, асветнае, грамадска-практычнае даследаванне і вывучэнне краіны.

З разгромам краязнаўчага руху ў 1929 годзе кнігі папярэднікаў былі забаронены, і дэфініцыя краязнаўства была перагледжана. У беларускай савецкай гістарыяграфіі краязнаўства сталі расцэньваць як сродак актыўнага ўдзелу шырокіх працоўных мас у сацыялістычным будаўніцтве шляхам усебаковага вывучэння толькі вытворчых сіл свайго раёна. Краязнаўства, падкрэслівалася, арганізаваная масавая навукова-даследчая праца з пэўнай мэтавай устаноўкай – садзейнічання ўзмацненню дыктатуры пралетарыяту і ажыццяўленню генеральнай лініі партыі ў сацыялістычным будаўніцтве. Ставілася мэта падпарадкаваць краязнаўства абслугоўванню задач сацыялістычнага будаўніцтва і ўзмацнення абараназдольнасці краіны. Іншыя заняткі ў межах краязнаўства расцэньваліся як шкодныя, справа вывучэння гісторыі сваёй малой радзімы перайшла ад навуковых арганізацый да "пенсіянераў і піянераў".

У перыяд "адлігі" (60-80-я гады XX стагоддзя) з краязнаўства здымаюць ярлык "трунакапальніцкага". З кароткіх фармулёвак найбольш удалай, на нашу думку, з'яўляецца такое энцыклапедычнае тлумачэнне паняцця: **"Краязнаўства — вывучэнне прыроды, насельніцтва, гаспадаркі, гісторыі і культуры якой-небудзь часткі краіны, адміністрацыйнага ці прыгараднага раёна, населеных пунктаў галоўным чынам сіламі мясцовага насельніцтва".**

У канцы XX стагоддзя, з атрыманнем суверэнітэта і развіццём нацыянальнага Адраджэння краязнаўства пачынае адыгрываць важную ролю ў фарміраванні новага грамадства, яго ідэалогіі. Цяперашняя грамадска-палітычная сітуацыя вельмі падобна на тую, у якой апынулася краіна ў 20-я гады XX стагоддзя, калі краязнаўства было моцным фактарам дзяржавабудаўніцтва. На нашу думку, можна пагадзіцца з фармулёўкамі беларускіх навукоўцаў А. Мальдзісам, В. Скалабанам, В. Рагойшам, якія прыводзяцца ў № 1 "Краязнаўчай газеты".

У 1960–80-я гады XX стагоддзя развіццё краязнаўства ішло прыкладна ў адным накірунку на абшарах СССР. Былі створаны і актыўна дзейнічалі рэспубліканскія таварыствы аховы помнікаў гісторыі і культуры. На Беларусі гэта БДТАПГіК (Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры) – масавая арганізацыя, якая па сутнасці і змесце дзейнасці была краязнаўчай. Для гэтага этапа характэрна цікавасць да ваенна-рэвалюцыйнай тэматыкі. Друкуецца шэраг краязнаўчых выданняў, у тым ліку краязнаўчы па сутнасці часопіс "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі". Краязнаўства пачынаецца выкладацца ў шэрагу ВНУ краіны, разгортваецца турысцка-краязнаўчы рух, зараджаецца пошукавы рух.

Ствараюцца сотні грамадскіх музеяў.

Неабыякавыя нататкі вандроўнікаў

# Аўтастопы ў цэнтры Еўропы




Колькі сябе памятаем, заўсёды цікавіліся роднай краінай: традыцыямі, звычаямі, але асабліва – помнікамі гісторыі і архітэктуры. Не кожны беларус ведае, колькі іх у нас, бо яны, нібыта пярліны, раскіданы па ўсёй беларускай зямлі. Радзівілы, Сапегі, Касцюшкі, Агінскія, Пуслоўскія, Гутэн-Чапскія – гэта не проста прозвішчы, а знакамітыя роды, якія пакінулі нам у спадчыну шмат таго, чым наша краіна сапраўды можа ганарыцца, бо толькі ў нашай краіне ёсць Мірскі замак, Нясвіжскі і Косаўскі палацы, безліч адметных сядзібаў ды маёнткаў, унікальных касцёлаў ды цэркваў. Таму нашай марай было пабачыць усё не толькі на малюнках і фотаздымках, але і на ўласныя вочы. Але, як ёсць у чалавека мары, так і заўсёды існуюць праблемы, якія перашкаджаюць іх здзейсніць. Галоўная праблема, што замінае здзейсніць нашую мару, – адначасова самая банальная: бракавала грошай, каб адправіцца ў вандроўку. Калі ж сталі студэнтамі, праблемы не зніклі. Але затое даведаліся пра тое, што нам засталося ў спадчыну зусім не ад Радзівілаў ці Сапегаў, а ...ад хіпі.

**Невялікая даведка.** *Радзіма аўтастопу як з'явы – Амерыка 60–70-х XX ст. Маладыя людзі шукалі свабоду і іншы лад жыцця ў вандроўках па розных краінах. Абсалютная большасць з іх рухалася без капейкі ў кішэні і часта нават без рэчаў. Практыка гэтых вольных вандровак хутка распаўсюдзілася сярод моладзі, вопыт перадаваўся як вусна, так і пісьмова.*

Лёс прывёў нас да людзей, неабыякавых да беларускай культуры. Пераважна гэта студэнты. Яны аб'ездзілі Беларусь, вандруючы выключна "самым дэмакратычным відам транспарту". І не па маршруце "дадому – у госці", як гэта робіць большасць грамадзян нашай краіны, а менавіта па знакамітых месцах Беларусі. Пасля гэтага мы вырашылі ўдвух актыўна вандраваць, карыстаючыся вопытам хіпі. Старая форма з новым зместам – гэта цудоўна!

Калі б у нас і была магчымасць ездзіць якім-небудзь іншым чынам, то усё адно выбралі б аўтастоп. Чаму? Найперш, якраз у дарозе можна сустрэць сапраўды цікавых людзей, шмат незвычайных лёсаў. Напрыклад, даводзілася аднойчы ехаць з чалавекам, які рэстаўраваў Траецкае прадмесце, касцёлы і цэрквы Мінска і Мінскага раёна. Было вельмі цікава гутарыць з ім: так атрымліваецца, калі размаўляеш з прафесіяналам у якой-небудзь галіне.

Калі выходзіш на дарогу, ніколі не ведаеш, будзе яна "лёгкай" ці няўдалай, бо часам здараецца непрадказальнае. Хлуснёй будзе, калі скажам, што падчас вандровак заўсёды шанцавала з транспартам. Даводзілася ісці "на сваіх двэюх" па некалькі дзесяткаў кіламетраў (20–30 кіламетраў аўтастопшчыкаў ужо даўно не пужаюць), ехаць на малакавозах, машынах з жывой рыбай, транспарце дарожных службаў, на конскім возе і нават на трактарах. Але хіба гэта вялікі кошт той радасці, якую адчуваеш, калі прыязджаеш туды, куды хацеў трапіць!

... І разам з радасцю адчуваеш боль за той стан, у якім знаходзяцца помнікі, што захаваліся да нашага часу, нягледзячы на пакручасты гістарычны лёс. Шматлікія войны, рэвалюцыі, сацыялістычнае будаўніцтва, калі пры планіроўцы новых будынкаў руйнавалася архітэктура, – і ўсё тое, што нашыя продкі рабілі стагоддзямі, знішчалася ў адно імгненне.

Ці бачыў хто-небудзь, што зрабіла чалавечая абыякавасць з сядзібай Нямцэвічаў у Скоках (Брэсцкі раён)? Шэра-жоўтыя брудныя сцены, краты на вокнах, замест шкла – фанера. Усярэдзіне – нічога ад былога вытанчанага інтэр'еру: ні парадных лесвіц, ні калон не засталося, а звонку – тры дрэўцы замест старога парку. Дарэчы, гэтая сядзіба вядомая не толькі тым, што ў ёй нарадзіўся пісьменнік Юліян Нямцэвіч. Шкада было б страціць такі цудоўны помнік.

Яшчэ горш справа з палацам Пуслоўскіх у Косава (Івацэвіцкі раён). Яго амаль знішчылі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. І не немцы, а мясцовыя партызаны. Калі вораг ўжо адышлі, расказалі нам людзі, нашы падарвалі адзін з найпрыгажэйшых палацаў Беларусі... Мясцовыя жыхары кажуць, што палаў ён цэлы тыдзень, і здалёк можна была бачыць "пахавальнае вогнішча". Відаць, моцнай была нянавісць у знішчальнікаў да ўсяго панскага, калі яны змаглі ўзяць на душу такі грэх!

Скокі, Косава – далёка не ўсе архітэктурныя помнікі, якія давялося бачыць у занядбаным стане. Спіс можна працягнуць: Ружаны, Крэва, Навагрудак, Бяроза, Высокае, Смаляны... А што казаць пра Гальшанскі замак, аб якім з любоўю пісаў Уладзімір Караткевіч? Між іншым, яшчэ ў 80-х "чорны замак Альшанскі" *быў*, а сёння ад яго *засталіся* толькі рэшткі вежы ды кавалак сцяны... І тым часам у "Зводзе помнікаў гісторыі і культуры Беларусі" чытаеш – "помнік не захаваўся". Ага, вось так узяў – і сам сабой не захаваўся! І з ім некуды падзеліся (таксама самі па сабе) вялікія і некалі магутныя замкі ў Глуску (Магілёўская вобласць) ды Высокім (Брэсцкая вобласць)...

Вядома, шмат можна спісаць на цяжкі гістарычны лёс, які выпаў Беларусі, на недахоп сродкаў для рэстаўрацыі, але як быць з абыякавасцю да нашай спадчыны? Варта ўспомніць хлеў, пабудаваны на тэрыторыі Ружанскага палаца вынаходлівым "народным умельцам" з замкавай цэглы.

Добра, што хоць каму-небудзь патрэбна беларуская архітэктура. Каб пабачыць Косаўскі палац, мы былі вымушаны праехаць некалькі соцень кіламетраў, прайсці пешкі яшчэ 15, а потым начаваць у намёце пад дажджом. І ўсё гэта, каб потым пабачыць былую прыгажосць у напаўзруйнаваным стане... З малюнкамі на пабураных сценах. (Горкая ўсмешка...)

Шмат чаго паспелі мы пабачыць. Але кожны дзень жыццё адкрывае перад намі новыя, раней невядомыя, старонкі гісторыі: былыя постаці і мінулыя падзеі ажываюць, калі дакрануцца да іх, удыхнуць паветра, якім яны дыхалі. Разумееце, трэба паспець паглядзець як мага больш. Бо ніхто не ведае, ці застанецца нашым дзецям хаця б дзесятая частка таго, што зможам мы пабачыць сёння. Пабачыць і сфатаграфаваць, занатаваць на каляровай стужцы "Зеніта" тое, чым калісьці ганарыліся і захапляліся нашыя продкі. (Шкада, што не нашыя з вамі сучаснікі...)

Таму мы зноў і зноў мусім рабіць рытуал, які рабілі тысячы маладых людзей да нас: выцягнутая рука, вецер у твар ад машын насустрач, усмешка. Гэта ўсё, каб пачуць словы: "Сядай, моладзь, нам з табой па дарозе".

*Уладзімір ВЫЛІНСКІ,*
*Яўгенія ПАШКЕВІЧ,*
*студэнты БДУ*


Рэшткі сінагогі ў в. Высокае

# Ў гістарычнай навуцы ідэалогіі

## ў другой палове XX стагоддзя

На Украіне на працягу 60 – 80-х гадоў гісторыкамі была падрыхтавана манументальная праца "Гісторыя гарадоў і сёл Украіны", у яго падрыхтоўцы прынялі ўдзел каля 100 тысяч навукоўцаў, выкладчыкаў, настаўнікаў, музейшчыкаў, архівістаў, краязнаўцаў-аматараў розных прафесій. Толькі архіўнымі ўстановамі Украіны было тэматычна распрацавана 1,6 млн картак. Акрамя таго, для падрыхтоўкі гэтага выдання былі скарыстаны 430 тыс. кадраў мікрафільмаў, 12 тыс. копій дакументаў з архіваў Расіі, Польшчы, Румыніі і інш. дзяржаў.

У той жа час краязнаўчая праца знаходзіцца пад ідэалагічным кантролем камуністычнай партыі, тэмы даследаванняў былі абмежаваныя, найбольшая ўвага надавалася вывучэнню гісторыі савецкага перыяду (вывучэнню рэвалюцыйных падзей, Вялікай Айчыннай вайны, сацыялістычнага будаўніцтва), вывучэнне некаторых пытанняў падавалася аднабока. Дзяржавай краязнаўства разглядалася як сродак выхавання моладзі, фарміраванне патрыятызму і грамадзянскіх якасцяў.

1985–2002 гады – якасна новы этап развіцця краязнаўства Беларусі. З палітыкі КПСС "перабудовы", стратай манаполіі КПСС на ўладу, змякчэннем, а потым і стратай цэнзуры і, нарэшце, атрыманнем незалежнасці краязнаўства становіцца важным сродкам фарміравання нацыянальнай самасвядомасці, патрыятызму, ідэалогіі, адраджэння гісторыка-культурнай і духоўнай спадчыны. Зноў, як і ў 20-я гады XX стагоддзя, краязнаўства становіцца важным фактарам фарміравання суверэнітэту краіны і яе ідэалогіі. Але калі ў 60–80-я гады XX стагоддзя развіццё краязнаўства ў краінах СССР ішло прыкладна ў адным рэчышчы, то з атрыманнем імі незалежнасці сталі назірацца пэўныя змены і розніца ў падыходах да пытання аб месцы краязнаўства ў гістарычнай навуцы і дзяржаўнай ідэалогіі.

У Расійскай Федэрацыі краязнаўства разглядаецца як аснова рэгіяналізму, тэорыі "абласніцтва", што ўзнікла яшчэ на пачатку XX стагоддзя. Гісторыя Расіі складаецца і пішацца з гісторый тых абласцей, краёў, рэспублік, якія ўваходзяць у федэрацыю. Такая палітыка зразумела ў такой шматнацыянальнай краіне. У кожным рэгіёне старанна вывучаецца гісторыя краю, выдаецца шэраг кніг па краязнаўстве. Штогод праводзіцца вялікая колькасць навукова-практычных канферэнцый. Напрыклад толькі за апошнія некалькі гадоў былі праведзены "Преподавание краеведения и москвоведения в высших учебных заведениях", "Современное состояние и перспективы развития в регионах России", "Региональная история в российской и зарубежной историографии" (Рязань, 1999), "Методология региональных исторических исследований (Санкт-Петербург, 2000). Фенамен расійскага (усходнеславянскага. – **М.П.**) краязнаўства прыцягвае ўвагу гісторыкаў усяго свету. Сарбонскі універсітэт у 2000 г. арганізаваў і правёў у Парыжы Міжнародную навуковую канферэнцыю "Краязнаўства ў Расіі: вытокі, праблемы, адраджэнне". На Украіне штогод праводзяцца краязнаўчыя канферэнцыі, сярод якіх можна адзначыць VIII Усеукраінскую навуковую канферэнцыю "Історичне краєзнавство і культура" (Харкаў), "Історичне краєзнавство Слобожанщини" (Харкаў).

У Маскоўскім гісторыка-архіўным інстытуце існуе спецыялізацыя "Краязнаўства і гістарычны турызм". Студэнты, якія абралі гэтую спецыяльнасць, вывучаюць унікальныя дысцыпліны: "Рэгіянальная гісторыя", "Гістарычнае краязнаўства", "Гісторыя Масквы і Падмаскоўя", "Маёнтказнаўства (Усадьбоведение)", "Царкоўнае краязнаўства", "Літаратурнае краязнаўства", "Тапанімія" і іншыя, а таксама спецыяльныя прадметы і па метадыцы турызму і экскурсійнай справы. Асаблівая ўвага надаецца практычным заняткам з наведваннем славутых мясцін Масквы і Падмаскоўя і летнім вучэбнай археалагічнай, краязнаўчай і музейна-экскурсійнай практыкам. Атрыманыя ў межах спецыялізацыі дазваляюць выпускніку працаўладкавацца ў якасці гісторыка-экскурсавода першай катэгорыі, кіраўніка турфірмы, экскурсавода-метадыста, аўтара-распрацоўшчыка новых экскурсійных маршрутаў.

Гістарычны факультэт Таўрычаскага нацыянальнага універсітэта таксама рыхтуе сярод іншых спецыялістаў па гістарычным краязнаўстве і гісторыі Крыма.

У Расіі і Украіне абаронены шэраг дысертацыйных даследаванняў на вучоную ступень кандыдата і доктара гістарычных навук і інш.

Як на Украіне, так і ў Расіі існуюць і актыўна працуюць агульнанацыянальныя грамадскія краязнаўчыя таварыствы (Союз краеведов России, Всеукраїнська спілка краєзнавців). Вядзецца супрацоўніцтва з дзяржаўнымі навуковымі ўстановамі, маюць дзяржаўную дапамогу. Існуюць дзясяткі перыядычных выданняў краязнаўчай накіраванасці, працуюць Інтэрнэт-сайты і парталы.

Не ўсё так на Беларусі. У снежні 1989-га на Усебеларускай канферэнцыі краязнаўцаў была аднаўлена дзейнасць Беларускага краязнаўчага таварыства. Але пасля адыходу з жыцця асноўных лідэраў арганізацыі па шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын дзейнасць рэспубліканскага таварыства спынілася. Не прайшлі перарэгістрацыю і шэраг абласных аддзяленняў. БДТАПГіК у новых умовах ужо не адыгрывае той ролі, якую адыгрывала ў 1960–80-я гады. У школьным краязнаўстве кіруючая і арганізуючая роля належыць Рэспубліканскаму цэнтру дзіцяча-юнацкага турызму і краязнаўства, які праводзіць вось ужо IV этап Усебеларускай экспедыцыі школьнікаў і навучэнцаў "Наш край".

На нашу думку, розніца сітуацыі, у якой апынулася беларуская краязнаўства ў параўнанні з украінскім і расійскім, у тым, што краязнаўства грамадскае не заўжды заўважаецца дзяржавай. Аналіз рэгіянальных выданняў, перыядычнага друку, з'яўленне рэспубліканскага друкаванага органа "Краязнаўчай газеты"... Вялізны патэнцыял краязнаўства ў фарміраванні дзяржаўнай ідэалогіі не раскрыты да канца. Узлёт школьнага краязнаўства, абласныя краязнаўчыя і раённыя канферэнцыі, якія праводзяцца, краязнаўчыя чытанні педагагічных работнікаў, абароненыя дысертацыі па месцы краязнаўства ў педагогіцы дазваляюць сцвярджаць, што краязнаўства зойме пачэснае месца як у гістарычнай навуцы, так і пры фарміраванні дзяржаўнай ідэалогіі.

***Мікалай ПІВАВАР,***
***краязнавец, г. Віцебск***



*Каб шчасце было ў вёсцы Таранаўка Віцебскага раёна*

*Фота з www.kraj.vitebsk.net*

# Старадаўнія прафесіі

*(Раздзелы з кнігі)*

## Сталавальнікі

Гэта нават не прафесія, найхутчэй – лад жыцця, звычка. Зазвычай адзінокі служачы або чыноўнік ніжэйшага разраду (былі гэта людзі надзвычай пераборлівыя) здымаў пакой з умоваю атрымання абедзеннага "стала". Гэта значыць, гаспадары кватэры бралі абавязкі карміць пастаяльца абедамі. Прычым сталавальнік выказваў гаспадыні свае ўмовы наконт страваў, методыкі гатавання і падобнае, адпаведна сваім халасцякоўскім звычкам. Такімі заробкамі – прадстаўленне "абедзеннага стала" – найчасцей займаліся пажылыя ўдовы, якія здавалі ўнаём пакоі адзінокім служачым. Зазвычай да ўласнага кватаранта падбіраліся яшчэ два-тры халасцякі. Разбітная гаспадыня прыкладала максімум намаганняў, каб прадэманстраваць свае кулінарныя здольнасці ў гатаванні смачных і сытных абедаў па коштах значна ніжэйшых, чым у сталоўках прыватнікаў, а тым больш – у рэстарацыі. Майстрыхі-паварыхі карысталіся і славаю, і папулярнасцю. Між імі амаль заўжды ўзнікала жорсткая канкурэнцыя. Кожная імкнулася адбіць у іншай кліента, бо чым больш сталавальнікаў – тым большы заробак.

Часам сталавальнікі мянялі сваіх гаспадароў не столькі з-за кватэры (пакоя), колькі з-за якасці абеду. Такі пераход "ад стала да стала" (вядома ж, непажаданы для ўтрымальніцы) імгненна станавіўся вядомым як сярод сталавальнікаў, так і між гаспадароў, выклікаючы пэўны канкурэнтны ажыятаж.

У нашым горадзе ў 30-х гадах XX ст. сталавальнікаў было даволі шмат. Ва ўсялякім разе, больш як 8 сямействаў і ўдоваў на Залессі, Легаве і ў цэнтры горада прадастаўлялі кватэры з "абедзенным сталом" для халасцякоў-гурманаў.

Найбольш вядомай у Лунінцы ўтрымальніцай "абедзеннага стала" лічылася ўдава Жэгала, якая жыла з сынам Казікам па вул. 29 Лістапада (цяпер – 17 Верасня). Яна найлепей умела смачна і разнастайна гатаваць. Нездарма ўсе высокапастаўленыя чыноўнікі, камандзіраваныя ў горад альбо завітаўшы па ўласных справах, – пракуроры, суддзі, адвакаты, банкаўскія работнікі, афіцэры і г. д. – сталаваліся менавіта ў Жэгала. Яна была па-за канкурэнцыяй сярод астатніх утрымальніцаў "абедзенных сталоў".

*(Працяг. Пачатак у № 16–20, 22–24)*

## Вастрыльшчыкі

"Вострым, вострым нажы, нажніцы, сякеры вострым!" – час ад часу неслася па гарадскіх вуліцах. Такім чынам паведамляў пра сваё з'яўленне прыезджы вастрыльшчык. Гэтым рамяством у Лунінцы амаль ніхто не займаўся, таму ў горад наведваліся заезджыя майстры. Кожны меў драўляны станок з 2–3 вастрыльнымі камянямі, умацаванымі на восі. Вось жа прыводзілася ў рух раменнай перадачай ад нажной педалі.

Побач з вастрыльшчыкам адразу ж з'яўлялася чарга. Асартымент заказаў быў даволі ўнушальны – ад дашчэнту затупленай сякеры да нажа ад мясарубкі. Рытмічна націскаючы на нажныя педалі, з жартамі ды прыбабунькамі майстар хутка вастрыў жалеззе, прычым – дабротна і нядорага. Мог ён рабіць дробны рамонт нажоў ды нажніцаў. Усю сваю майстэрню вастрыльшчык насіў на сабе або вазіў на невялікім вазку. Тыя ж, хто ездзіў па далёкіх вёсках, мелі коней.

Наш складаны і суровы час уносіць у жыццё свае карэктывы. Здавалася б, што ў век навукова-тэхнічнага прагрэсу вастрыльшчык-адзінец з пераносным "вастрыльным цэхам" застаўся ў 30-х гадах XX ст. Дык не! Прафесія не памерла. Летась увесну я назіраў за працаю такога майстра ў шматлюдным мінскім двары. Працы ў яго шмат.

*(Працяг будзе)*

*Старажытныя модніцы*




# Ці хораша ты, дзяўчыначка, прыбраная?

## Пацеркавыя скроневыя кольцы

За скроневымі кольцамі з нанізанымі металічнымі пацеркамі тонкай мастацкай работы замацаваўся тэрмін "завушніца". З гэтымі вырабамі археолагі пазнаёміліся па кладах Кіеўскай Русі і лічылі іх упрыгажэннямі палян. Але далейшыя знаходкі ўстанавілі, што больш правільна вызначыць іх як прадукцыю не толькі кіеўскіх, але і наогул старажытнарускіх гарадскіх рамеснікаў. Значная колькасць падобных упрыгажэнняў знойдзена на тэрыторыі Польшчы і Чэхіі.

Цікавае пытанне аб паходжанні трохпацеркавых кольцаў. Верагодна, гэта ідэя нарадзілася ў мастацтве старажытных славян.

Дык вось, трохпацеркавыя падвескі маглі размяшчацца вертыкальна – на стужках ці скураных раменьчыках, з двух бакоў абрамляючы твар.

Характэрна і тое, што трохпацеркавыя скроневыя кольцы лічыліся, у асноўным, упрыгажэннямі заможных гарадскіх вярхоў, з'яўляліся дарагімі ювелірнымі вырабамі. Да іх адносіліся вырабы з золата і серабра, у лік якіх уваходзілі і скроневыя трохпацеркавыя кольцы, знойдзеныя ў старажытнарускіх кладах, скрытых напярэдадні татарскага нашэсця. Іх па праву можна лічыць вяршыняй ювелірнага мастацтва, сакрэты якога раскрываюцца да гэтага часу. Пры вырабе іх выкарыстоўвалася тэхніка, якая ўражвае нас сваёй далікатнасцю і тонкасцю работы.

Чатыры пацеркі – элементы пацеркавых скроневых кольцаў, знойдзеныя ў Бярэсці ў слаях XI–XIII стагоддзяў, таксама выкананы з выкарыстаннем разнастайных ювелірных тэхнік.

Найбольшую цікавасць уяўляе пацерка "мінскага" тыпу (яны знойдзены ў Мінскіх курганах). На думку даследчыкаў падобныя ажурныя цыліндрычныя буйназярнёныя пацеркі адносяцца да лакальных упрыгажэнняў дрыгавічоў.

Пацерка, знойдзеная на Бярэсці, адносіцца да ліку ажурных, цыліндрычных, буйназярнёных, Асновай кожнай пацеркі з'яўляецца ажурны медны каркас з радыяльна набранага дроту (дыяметр – 0,2 мм), спаянага паміж сабой. Каркас складваецца з двух паўшар'яў, таксама спаяных разам у месцах злучэння.Пацерка пакрыта буйнай сярэбранай зерню (дыяметр – 0,8 мм), напаянай непасрэдна на дроцікі каркаса ў месцах злучэння петляў двух паўшар'яў і вышэй гэтага злучэння – у цэнтры кожнай пятлі. Акрамя таго, зернь злучае петлі пацеркі ў двух месцах – на плячы пацеркі і ніжэй, у кропцы, роўнааддаленай ад пляча і месца злучэння двух паўшар'яў. Пры гэтым шарыкі зерні , напаяныя на каркас у шахматным парадку, утвараюць крыжападобны матыў з двух зёран, напаяных на плечы і месцы злучэння двух петляў паўшар'яў і двух зёран на петлях, што змацоўваюць яе сярэдзіну.Зёрны, напаяныя на пацерку, надаюць ёй дасканалы, закончаны выгляд.

Такім чынам, адна пацерка, знойдзеная на Бярэсці, была сабрана з 112 дэталяў, злучаных паміж сабой метадам пайкі – 22 петляў, 2 муфтачак, 88 зёран. Выраб такіх пацерак патрабаваў кваліфікаванай карпатлівай працы і большага ювелірнага майстэрства, з-за чаго яны мелі высокі кошт і былі маладаступнымі.

Пацеркі мацаваліся на кругладрацянай дужцы. Ад змяшчэння прамежкі паміж пацеркамі абмотваліся дротам. Канцы ў драцянай дужкі часцей за ўсё абсечаны прама, бывае, маюць спіральны ці S-падобны загіб. Вырабляюцца з бронзы, білона (нізкапробнага срэбра) ці спалучэння гэтых матэрыялаў.

Мяркуючы па аналагах, пацерка, знойдзеная на Бярэсці, магла ўваходзіць у састаў шматпацеркавага, двухпацеркавага ці трохпацеркавага скроневага кольца.

Жаночыя ўпрыгажэнні гэтага віду знойдзены ў курганных захаваннях X – XIII стагоддзяў Брэстчыны (Войская, Ратайчыцы, Свішчава, Любашкі і Трасцяніца Камянецкага раёна). У населеных пунктах Беларусі буйназярнёныя ажурныя цыліндрычныя пацеркі сустракаюцца рэдка. Па адной пацерцы знойдзена пры раскопках Мінска, Ізяслава і Заслаўя.

Ў слаі сярэдзіны XIII стагоддзя знойдзена буйная шарападобная ажурна-лжывафілігранная пацерка, якая імітуе свае філігранныя аналагі, выкананыя з тонкага дроту.

Яна складзена з дзвюх паўсфер, кожная з якіх мае агульную круглую і пляскатую аснову. Ад асновы адыходзяць чатыры пучкі тонкіх палосак, якія ўтвараюць складанае пляценне.

Пацерка, выраблена з свінцова-алавянага сплаву, складаецца з 24 палосак і дзвюх муфтачак. Для надання ёй сферычнай формы выкарыстоўвалася паўкруглая матрыца. На палоску нанесены ўзор з паралельна размешчаных насечак, што імітуюць скань. Адваротны бок палоскі такіх насечак не мае, што робіць яе плоскавыпуклай.

Насечкі нанесены і на круглыя асновы пацеркі, праз якія калісьці прапус-



каліся літыя кольцы. Прамежкі паміж пацеркамі абмотваліся дротам. Гэта абмотка стварала пэўныя прамежкі паміж пацеркамі і фіксавала, замацоўвала іх у неабходным становішчы. Пацеркі не дакраналіся адна да адной.

Мяккасць сплаву, значныя памеры пацеркі, параметры адтуліны не дазваляюць выкарыстоўваць яе ў якасці асобнай у складзе прывычнай для нас нізкі пацерак. Значны дыяметр муфтачак і адпаведна значны дыяметр літога кольца выключаюць меркаванне выкарыстання ўпрыгажэння ў якасьці завушніцы. Магчыма, пацерка ўваходзіла ў састаў скроневага кольца, утворанага з пацерак рознага дыяметра, займаючы як самая буйная, цэнтральнае месца на дужцы ў якасьці цэнтральнай.

Наўгародскі сканы аналаг (XI стагоддзе) гэтага тыповага гарадскога жаночага ўпрыгажэння і рускія клады XII–XIII стагоддзяў дазваляюць дапусціць, як магло выглядаць трохпацеркавае скроневае кольца з Бярэсця, у састаў якога ўваходзіла знойдзеная лжывафілігранная пацерка.

З развіццём ювелірнага рамяства і попыту насельніцтва на ўпрыгажэнні гарадскія ювеліры сталі выраблядь літыя колты, пацеркі і трохпацеркавыя скроневыя кольцы, што імітуюць пацеркавыя. Адліўка ў імітацыйных формах з'яўляецца прызнакам гарадскога вырабу. Пры гэтым яны былі падобны на аргіналы, але выкананы не такой працаёмкай тэхнікай і не з дарагіх матэрыялаў.

Да іх адносіцца цікавая знаходка са слою канца XII стагоддзя, якая імітуе трохпацеркавае скроневае кольца. Знаходка дайшла да нас не цалкам – адна пацерка і канец дужкі кольца страчаны. Выраб адліты, калі меркаваць па падоўжанаму шву, у двухбаковай імітацыйнай форме. Пры яго вырабе выкарыстоўваўся алавяніста-свінцовы сплаў. Швы груба выступаюць на паверхні вырабу, напільнікам не прапрацаваны. Серабрысты бляск паверхні надае вырабу больш дарагі выгляд.

Падобныя скроневыя кольцы выяўлены ў курганных пахаваннях Брэсцкага Пабужжа. Адно з іх знойдзена ў бескурганным захаванні каля вёскі Ратайчыцы. Кольца абгорнута тонкім дротам. На кольцы на роўнай адлегласці размешчаны тры сярэбраныя, з дзвюх палавін пацеркі.

Другое трохпацеркавае скроневае кольца знойдзена ў кургане каля вёскі Кусцічы. На ім на роўнай адлегласці размешчаны тры пацеркі. У адрозненне ад упрыгажэння з Ратайчыц гэты выраб літы, імітуе свой больш складаны і дарагі аналаг. Гэта зблізкае знаходкі трохпацеркавых гладкіх імітацыйных скроневых кольцаў з Кусціч і Бярэсця.

***А. РЫСІНСКАЯ,***
***загадчыца аддзела Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея***

***(Заканчэнне артыкула будзе)***





***У другой палове XVII ст. у сталіцы Расійскай дзяржавы сярод адукаваных і «кніжных» людзей стварылася некалькі партый, якім тагачасны пісьменнік іерадыякан Дамаскін даў такія назвы: «лацінікі», або «заходнікі», «усходнікі» (праваслаўныя традыцыяналісты), і «пярэстыя», што займалі сярэдзіну паміж «заходнікамі» і «ўсходнікамі». Аўтар гэтай класіфікацыі залічваў сябе і Яўфімія Чудоўскага да «ўсходнікаў», падкрэсліваючы іх адпаведнасць тыпу «истинно русского» чалавека, не «скалечанага» схаластычнай навукай, сумленнага і непадкупнага, шчыра богабаязнага і ціхмянага, бясстрашнага змагара за сваю веру і праўду. Да «заходнікаў» Дамаскін справядліва залічваў Сімяона Полацкага і яго вучня Сільвестра Мядзведзева, «акураных» еўрапейскай вучонасцю. Адпаведна «пярэстым» быў апошні з расійскіх «любамудраў» Карыён Істомін.***

# Сімяон Полацкі і маскоўскія любамудры

*Да 375-годдзя нараджэння беларускага і рускага паэта, драматурга, грамадскага дзеяча і асветніка*

Беларускі пісьменнік, асветнік і тэолаг, майстар прамоўніцкай прозы Сімяон Полацкі, які прыехаў на сталае жыхарства ў Маскву (1664) з нестабільнай пасля «патопу» грамадзянскай і польска-шведскай войнаў Рэчы Паспалітай, карыстаўся асаблівай павагай з боку Аляксея Міхайлавіча. Другі цар з дынастыі Раманавых хацеў мець у дзяржаве кампетэнтную цэнтральную канцылярыю, дзеля чаго прызначыў Сімяона, аднаго з самых адукаваных людзей у тагачасным усходнееўрапейскім рэгіёне, настаўнікам школы паддзячых, а крыху пазней – яшчэ і прыдворным выхавальнікам царскіх дзяцей, перакладчыкам пры царкоўным рэфарматары Паісіі Лігарыдзе. Не абышлося, відаць, без асабістых сімпатый цара да вучонага «вершатворцы», бо сам Аляксей Міхайлавіч быў аматарам паэтычнага мастацтва. Вядома, напрыклад, што на дварцовым абедзе 7 верасня 1674 г. «учитель старец Симеон» сядзеў на ганаровым месцы недалёка ад Аляксея Міхайлавіча, бацькі дванаццаці дзяцей. Ёсць падставы думаць, што трактат Сімяона Полацкага «Венец веры кафолическия» служыў падручнікам для ягоных вучняў, сярод якіх была і царэўна Софія (1656–1704). Пра гэта сведчыць верш паэта «Вручение книги «Венец веры» благородной и благоверной государыне царевне великой княжне Софии Алексеевне». Рэзка адмоўна ацаніў працу Сімяона яго праціўнік з лагера «ўсходнікаў» Яўфімій Чудоўскі, які склаў сваё «обличение» на «неправославные» думкі гэтай кнігі, напісанай «по мудрствованию латинскому», напоўненай «ересьми латинскими и лютеранскими».

Газскі мітрапаліт Паісій Лігарыд па запрашэнні патрыярха Нікана і цара Аляксея Міхайлавіча прыехаў у 1662 г. у Маскву, дзе яму даручылі падвесці тэалагічную аснову пад спрэчны ў Расіі тэзіс аб першынстве «царства» над «святарствам». Сімяон Полацкі перакладаў творы Паісія. У выніку іх намаганняў быў апублікаваны палемічны трактат «Опровержение челобитной попа Никиты», прасякнуты асветніцкім пафасам: аўтары прапанавалі ўраду сістэму школьнай адукацыі, выкладанне ў школах трох моў – грэчаскай, лацінскай і славянскай, стварэнне бібліятэк царкоўных і свецкіх кніг. Услед за Ф. Скарынам яны заклікалі дзяржаўных мужоў браць прыклад з цара Пталамея, вядомага сваёй гарачай прыхільнасцю кніжнай мудрасці.

Дыскусіі па асноўных праблемах хрысціянскага веравызнання вяліся ў доме баярына Фёдара Рцішчава (1626–1673). Там адбыліся сустрэча і дыспут Сімяона Полацкага з правадыром стараверaў пратапопам Авакумам. З дазволу цара і па бласлаўленні патрыярха Іосіфа баярын Рцішчаў пабудаваў у двух вярстах ад тагачаснай Масквы, на Вераб'ёвых гарах, каля царквы Андрэя Страцілата, манастыр, запрасіў туды з Кіева-Пячорскага ды іншых украінскіх манастыроў трыццаць адукаваных манахаў, якія перакладалі грэчаскія кнігі на славяна-рускую мову, стварылі школу, выкладалі там граматыку, грэчаскую мову, рыторыку і тэалогію. Запрошаны ў 1649 г. з Украіны ў Маскву пісьменнік, вучоны і перакладчык грэчаскай арыентацыі Епіфаній Славінецкі напісаў для гэтай школы «Лексикон речений языка словенска и греческа со инеми языки». Да нас дайшло каля сарака яго сілабічных вершаў-песняў эпічнага зместу.

Паміж «грэкафілам» Епіфаніем Славінецкім і «лацінікам» Сімяонам Полацкім узніклі прынцыповыя разыходжанні па праблемах тэалогіі, перакладу і рэдакцыі богаслужбовых кніг. За год да сваёй смерці (1675) Епіфаній адхіліў Сімяона ад удзелу ў перакладзе Біблії на царкоўна-славянскую мову, бо, на яго думку, полацкі асветнік «зане аіце и учен бе... и знаіце нечто, но латински точю». Не падзяляючы некаторых «лацінскіх» (заходнееўрапейскіх) асветніцкіх ідэй Сімяона, Епіфаній паважаў яго за вучонасць і сяброўскія адносіны, перад смерцю адпісаў яму ў дар два залатыя рублі – больш, чым старэйшым па чыне маскоўскім архімандрытам. У сваю чаргу Сімяон Полацкі прысвяціў нябожчыку пяць вершаваных эпітафіяў – «Преподобному отцу Епифанию Славинецкому, богослову и многих язык мужу искусну».

Сярод маскоўскіх «любамудраў» (філосафаў праваслаўна-багаслоўскай арыентацыі), паслядоўнікаў Епіфанія Славінецкага, было шмат праціўнікаў полацкага асветніка, якія аспрэчвалі яго паэтычную практыку і перакладчыцкую канцэпцыю. Яўфімій Чудоўскі, вядомы таксама як паэт-сілабіст, крытыкаваў «Псалтирь рифмотворную» (пераклад Псалтыра сілабічнымі вершамі, 1678) Сімяона Полацкага. Такая пазіцыя «грэкафілаў» перашкаджала збліжэнню царкоўнаславянскай мовы з нацыянальнай гутарковай мовай і паскоранай секулярызацыі царкоўных літаратурных жанраў, якой міжвольна садзейнічаў Сімяон Полацкі.



Яўфімій Чудоўскі не адчуваў асабістай варожасці да полацкага асветніка, прызнаваў яго адукаванасць і пры выпадку карыстаўся плёнам яго вучонасці, але бачыў свой маральны абавязак у тым, каб перасцерагчы Сімяона, што нельга адступаць ад праваслаўных традыцый нават у дробязях, пераканаць яго адмовіцца ад «польска-лацінскага мудрствовання».

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што пры перакладзе кананічных тэкстаў царкоўнай літаратуры Сімяон Полацкі імкнуўся захаваць змест і форму арыгінала. Інакш ставіўся ён да вершаванага мастацкага перакладу. Пераствараючы свае польскамоўныя вершы на рускую мову («Адам», «Подражание», «Страдание», «Честь родителей» і інш.), Сімяон аддаваў перавагу інтэрпрэтацыі на тэму арыгінала, выкарыстоўваў метад барока і школьнай паэзіі, у аснове якога была вольная перыфраза, варыянтнасць вершаваных перапрацовак. Даследчыкі адзначаюць «лінгвістычнае франтаўство», характэрнае для беларускіх і рускіх сілабістаў, знаўцаў польскай мовы і літаратуры – ад Сімяона Полацкага да Ф. Пракаповіча і маладога В. Традзіакоўскага.

Пасля смерці цара Аляксея Міхайлавіча пераемнікам на расійскім троне стаў яго сын Фёдар, былы вучань Сімяона Полацкага. Гэта дало асветніку магчымасць адкрыць пры двары «Верхнюю» друкарню, вольную ад патрыярхавай цэнзуры. Там выйшла ў свет яго кніга «Псалтирь рифмотворная» (1678). Пакладзеныя на музыку В. П. Цітовым сілабічныя псалмы ўвайшлі ў песеннікі, сталі папулярнымі ў асяроддзі адукаванай публікі. Пазней гэтую традыцыю развіваў Феафан Пракаповіч (сілабічны «парафразіс» 89-га і 90-га псалмаў у вершы «Кто крепок, на Бога уповая»). Сілабатанічным вершам перакладалі асобныя псалмы М. Ламаносаў, А. Сумарокаў, М. Хераскаў, Г. Дзяржавін. Так «Псалтирь рифмотворная» Сімяона Полацкага стала тым «паэтычным мастом», які злучыў дзве літаратурныя эпохі. Як засведчыў Н. Новікаў, «зорка» расійскага класіцызму Ламаносаў вывучаў па гэтай кніжцы паэтычнае мастацтва, а пазней назваў яе, поруч з «Арыфметыкай» Л. Магніцкага, «брамаю вучонасці».

Значнае месца ў творчасці Сімяона Полацкага займала «школьная» (схаластычная) навука. Сярод маскоўскіх «любамудраў» не было згоды адносна свецкай навукі.

Сімяон Полацкі – адзін з першых папулярызатараў натурфіласофскіх ведаў на Русі. Будучы рацыяналістам, ён аддаваў перавагу «розуму», у той час як Епіфаній Славінецкі найперш звяртаўся да «духоўных» і «душэўных» пачаткаў чалавечага жыцця. Полацкі асветнік першым сярод усходнеславянскіх літаратараў выкарыстаў у вершах сімволіку лічбаў – так званую «арыфмалогію», распрацаваную ў старажытнай Грэцыі паслядоўнікамі піфагарыйскай школы. На думку даследчыка В. Кірыліна, захапленне містычнай лічбаў на Русі ў першай палове XVI ст. было вынікам «уздзеяння каталіцызму на рускую культуру гэтага перыяду». Пазней асветнік Мікалай Спафарый сістэматызаваў гэтыя ідэі ў трактаце «Арыфмалогія».

Характэрная рыса эстэтыкі барока другой паловы XVII стагоддзя – сінтэз палітычнага і выяўленчага мастацтваў. Сімяон Полацкі напісаў цыкл надпісаў («эпіграматаў») да партрэтаў царскай сям'і, у якім абыгрывалася этымалогія імён персанажаў. Ягоны вучань Сільвестр Мядзведзеў стварыў вершаваны надпіс да партрэта царэўны Сафіі ў акружэнні «сямі дабрачыннасцяў». Вядомыя таксама надпісы Карыёна Істоміна да «абразоў». Захавалася сведчанне гэтага паэта, што паасобныя строфы яго твора «Эдэм» напісаны як тлумачэнні да іконаў, надпісы да іх. Сярод папераў К. Істоміна захаваліся тэксты казанняў Сімяона Полацкага, а поруч з імі – спіс з перакладу Епіфанія Славінецкага «От книг св. Иоанна Дамаскина, от третьего Слова о святых иконах». У 1679 г. кнігазахавальнік Маскоўскага Друкарскага двара Мардарый Хонікаў стварыў 3824 вершаваныя надпісы да мініяцюр Бібліі Піскатара, па матывах якіх у 1680 г. быў выкананы фрэскавы роспіс яраслаўскай Ільінскай царквы. Сярод вершаў Мардарыя Хонікава на біблейскія тэмы сустракаюцца пераклады лацінскіх надпісаў да гравюраў папулярнай на Русі амстэрдамскай Бібліі Міколы Піскатара (другое выданне, 1674). Яшчэ ў XVIII ст. з гэтай кнігі друкаваліся малюнкі на біблейскія тэмы з вершаванымі надпісамі Мардарыя. Пра такое пранікненне вершаў у штодзённы побыт марыў Сімяон Полацкі. Дарэчы, ягонымі «фігурнымі» вершамі царэўны ўпрыгожвалі свае пакоі.

У польскамоўным эпіграматычным цыкле «Сем цудаў свету» Сімяон Полацкі тлумачыць чытачам, як і для чаго ўзніклі велічныя збудаванні – статуя Зеўса Алімпійскага, Радоскі калос, Фароскі маяк, егіпецкія піраміды. У 1671 г. паэт пераклаў гэтыя вершы на рускую мову і амаль поўнасцю ўключыў іх ва ўрачыстае «Приветство цару... о вселении его благополучном в дом... пречюдное красотою в селе Коломенском новосозданный». Толькі замест сямі цудаў свету ён цяпер славіць восьмы цуд – Каломенскі палац, мастацкі сімвал «Масквы – трэцяга Рыма». Услед за Сімяонам апісанне сямі цудаў свету зрабіў у канцы XVII ст. Андрэй Белабоцкі ў пятай частцы свайго «Пентатэугума» пад элегічнай назвай «Сон жизни человека, или суета».

Ідэі пра сінтэз паэзіі і выяўленчага мастацтва адлюстроўваліся ў тэарэтычных трактатах Сімяона Полацкага «Слово к люботщательному иконного писания» (напісаны ў сааўтарстве з мастаком Сімонам Ушаковым каля 1666 г.), у «Запісцы», адрасаванай цару Аляксею Міхайлавічу адносна праблем «вобразапісання» (каля 1667 г.), у «Грамоте трех патриархов» (1668) і «Царской грамоте» (1669), урэшце, у падагульняючай «Беседе о почитании святых икон». На думку гісторыка літаратуры В. Быліна, чыставік гэтага твора зроблены рукой Сільвестра Мядзведзева ў 1677 г. Трактат скіраваны супраць іканаборчых плыняў, пашыраных у тагачаснай Расіі. Ён абараняў іканапіс ад скажэння яго кананічных прынцыпаў як у бок спрошчаных простанародных уяўленняў пра «святое іканапіснае рамяство», так і ў кірунку празмерна рэалістычнага «жыццепадабенства». Найбольш блізкім Сімяону быў тып іконы, які склаўся ў беларуска-ўкраінскім рэгіёне Рэчы Паспалітай. У гэтай іканапісна-мастацкай плыні дамінаваў эмблематычны прынцып выяўлення, спалучэнне малюнка і надпісу.

***Літаратурная і асветніцкая, дзяржаўная і царкоўная дзейнасць Сімяона Полацкага ў Маскве была важным этапам станаўлення свецкай літаратуры, тэатра, выяўленчага мастацтва, музыкі, філасофіі і грамадскай думкі Расіі ў другой палове XVII–XVIII ст., садзейнічала сінтэзу традыцыйных духоўных каштоўнасцяў народаў усходнеславянскага рэгіёна і рацыяналістычнай заходнееўрапейскай культуры. Таму не выпадкова імя Сімяона Полацкага (Самуіла Гаўрылавіча Пятроўскага-Сітніяновіча) па рашэнні ЮНЕСКА ў 1980 г. было ўнесена ў каляндар міжнародных дат вялікіх дзеячаў славянскай культуры.***

***Лола ЗВАНАРОВА, г. Масква***
***(Зборнік «Беларусіка. Albaruthenica», кніга 1)***

## *Гражданство*

*Како гражданство преблаго бывает,*
*гражданствующым знати подобает.*
*Разная седми мудрых суть мненія,*
*но вся виновна граждан спасенія.*
*Премудрый Виас даде слово свое,*
*гражданство быти преизрядно тое,*
*В нем же закона, як царя, боятся*
*и царя, яко закона, страшатся.*
*Хилон блажит, где законов слушают,*
*велесловных же ритор не глашают.*
*Клеовул паки той град похваляет,*
*где безчестия всяк ся устрашает*
*Гражданин паче закона самаго,*
*на преступники в книгах писаннаго.*
*Периандер же то славит гражданство,*
*в нем же всем прочим, имущым равенство,*
*Добродетелми зовутся лучшая*
*и наричутся злобы вся хуждшая.*
*Питтак похвалу дает граду тому,*
*в нем же началство не дается злому.*
*Фалес град блажит, где граждане мнози*
*ни пребогати, ни зело убози.*
*Солону град люб, в нем же обид творцы*
*вся равно имут праведныя борцы,*
*Не токмо беду от них страдавшыя,*
*но ни едины тщеты познавшыя.*
*Еще – идеже блазии блажатся,*
*честь приемлюще, злии же казнятся.*
*Еще – и в нем же граждане слушают*
*началных, – сии закон почитают.*
*Сия суть, яже крепят государства*
*чинна и славна содевают царства.*





## Ліпень

1 – **Клецкі дзяржаўны гісторыка-этнаграфічны музей** (1979) – 25 гадоў з часу заснавання.

3 – **Вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў** (1944) – 60 гадоў.

11 – **Вуячыч Віктар Лук'янавіч** (1934–1999), эстрадны спявак, народны артыст Беларусі – 70 гадоў з дня нараджэння.

17 – **Аршанскі, Асіповіцкі, Барысаўскі, Бешанковіцкі, Буда-Кашалёўскі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Бярэзінскі, Верхнядзвінскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Глускі, Горацкі, Дзяржынскі, Дрыбінскі, Дубровенскі, Ельскі, Жлобінскі, Жыткавіцкі, Калінкавіцкі, Капыльскі, Кармянскі, Касцюковіцкі, Клімавіцкі, Клічаўскі, Краснапольскі, Круглянскі, Крупскі, Крычаўскі, Лагойскі, Лельчыцкі, Лепельскі, Лёзненскі, Любанскі, Магілёўскі, Мазырскі, Мсціслаўскі, Нараўлянскі, Петрыкаўскі, Пухавіцкі, Рагачоўскі, Расонскі, Светлагорскі, Сенненскі, Слаўгарадскі, Слуцкі, Смалявіцкі, Старадарожскі, Талачынскі, Уздзенскі, Ушацкі, Хоцімскі, Чавускі, Чашніцкі, Чэрвеньскі, Чэрыкаўскі, Шклоўскі, Шумілінскі раёны** (1924) – 80 гадоў з часу ўтварэння.

21 – **Каваленка Віктар Антонавіч** (1929, Валож. р-н – 2001), крытык, літаратуразнавец, празаік, акадэмік НАН Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1980 г.) – 75 гадоў з дня нараджэння.



Фота Зміцера [illegible]

# Святочныя сюрпрызы

– Выкінь на сметнік гэту сухастоіну! – раздражнёна падала мне жонка з балкона вазон. – Толькі ствол, галінка і лісточак засталіся!

Я пашкадаваў вазон. Хоць месца свабоднага ў нашай «хрушчоўцы» мала, крыху пасунуўшы ўбок камп'ютэр, я паставіў яго на свой пісьмовы стол, ля акна.

Праз тыдні два на яго галінцы з'явіўся бутон, які на каталіцкае Хрыстова Нарджэнне расквітнеў пышнай ярка-чырвонай кветкай. А на Новы год мы радаваліся другой, такой жа буйной кветцы, якая ружавела на фоне бялюткага снегу за акном. Праз тры-чатыры дні кветкі зваліліся на падаконнік. Вазон нібы хацеў сказаць: харошага – пакрышку. Я шкадаваў, што так хутка адцвілі такія прыгожыя кветкі.

Можаце ўявіць нашу радасць, калі і на праваслаўныя Каляды, 7 студзеня, наш вазон расквітнеў трэцяй ярка-чырвонай ружай. Усе калядныя святы мы былі з жывымі прыгожымі кветкамі!

Вучоныя сцвярджаюць, што расліны мала адрозніваюцца ад людзей на храмасомным узроўні. Шматлікія даследаванні паказалі, што расліны рэагуюць не толькі на фізічныя ўздзеянні, але нават на словы людзей. Але такога дзіва дзіўнага, якое адбывалася і адбываецца ў мяне, я яшчэ ніколі не бачыў. Усё жывое абараняе сваё існаванне: адны – сілай, іншыя – розумам, трэція – ікламі, чацвёртыя – калючкамі, а мой вазон абараняўся... прыгажосцю.

Наша кітайская ружа, як называе расліну мая жонка, зноў і зноў прыносіла нам сюрпрызы менавіта на святы. Адкуль яна магла ведаць, калі будзе мой дзень нараджэння, потым свята жанчын, Вялікдзень, Радаўніца і нарэшце 1 Мая і Дзень Перамогі?

Не інакш, чула нашы размовы і радавала нашу сям'ю зноў і зноў. Я нават сфатаграфаваў і аднёс у "Вячэрні Мінск» здымак маёй кветкі, але там, відаць, вельмі засумняваліся ў праўдзівасці маіх слоў. Сапраўды, цяжка ў такое паверыць, калі не пабачыш на свае вочы. Ведаў бы, што так усё будзе, запрасіў бы вучоных з Нацыянальнай акадэміі навук, каб засведчылі незвычайнае і правялі даследаванні. Магчыма, мой вазон трапіў бы ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Ды хіба гэта не рэкорд, калі на працягу паўгода – дзень у дзень! – на кожнае свята вазон упрыгожваў нашу кватэру ўсё новым і новым цудам!



Аўтар з цудам-кветкай

– Цяпер ніколі не выкіну гэты вазон, – гаворыць жонка, – баюся граху.

***"Містыка", – скажаце вы. А я вам скажу: ніколі не трэба нічога ламаць і крышыць, таптаць і глуміць, як іншы раз мы гэта робім, не задумваючыся. Усё хоча жыць!***

***Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**АТЭНЭУМ** (лац. ад грэч. храм багіні Афіны ў Старажытнай Грэцыі) – так называлася 1) першая вышэйшая навучальная ўстанова, адкрытая ў Старажытным Рыме ў 135 годзе; 2) сярэдняя школа ў Францыі ў перыяд Вялікай французскай рэвалюцыі 1789 – 1794 гг.; 3) – часопіс на польскай мове, які выдаваў у 1841 – 1851 гады ў Вільні польскі пісьменнік Ю. Крашэўскі. Адлюстроўваў пытанні гісторыі, культуры, грамадска-палітычнага жыцця, у пераважнасці, зямель былога Вялікага княства Літоўскага – Беларусі, Літвы, Украіны. Найбольшы поспех меў у 1842 – 1848 гады, калі змяшчаў матэрыялы, накіраваныя супраць прыгнёту, за вызваленне сялян ад прыгону, калі вялася палеміка з групоўкай рэакцыянераў "Заходняга краю" – так званай "пецярбургскай катэрыяй". Друкаваліся фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы, у тым ліку і з Беларусі ("Народныя песні, сабраныя на Піншчыне" Р. Зянькевіча, "Матэрыялы да статыстыкі і этнаграфіі Гродзенскай губерні" Ю. Ярашэвіча і інш. З часопісам актыўна супрацоўнічаў У. Сыракомля (Л. Кандратовіч).

**АЎРАМКІ ЛЕТАПІС** – звод, складзены ў апошняй чвэрці XV ст. у Пскове ці ў Ноўгарадзе на аснове больш ранніх летапісных крыніц. Асвячае падзеі да 1469 года. Закранута гісторыя старажытнага Кіева, Маскоўскай Русі, а таксама часткова і Вялікага княства Літоўскага, барацьба ўсходніх славян супраць замежных захопнікаў. Найбольш каштоўнымі лічацца матэрыялы за XIV і XV стст., у летапісе змешчаны юрыдычныя артыкулы, у тым ліку і "Руская праўда".

На аснове гэтага дакумента ўзнік Віленскі спіс, у канцы якога змешчаны тэкст "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх". Звесткі з Аўрамкі летапісу браліся і для Супрасльскага рукапісу.

**АЎСТЭРЫЯ** (з італ.) – заезны дом, тып карчмы. У нас вядомая з XVI ст. Будавалася з дрэва, цэглы, у тэхніцы 'прускага муру' на гандлёвай плошчы або на вуліцах гарадоў і мястэчак. Мела стайні, вазоўні, гасціныя пакоі, каморы. Гасціныя пакоі абсталёўваліся лавамі, сталамі, мелі кафляную грубку для ацяплення і мураваную печ для прыгатавання ежы. У XVIII ст. мелі 2 планіровачныя структуры: з уваходам у жылую частку праз вазоўню; да вазоўні траплялі праз праезд – калідор жылой часткі (Тураў, Гродна, Глуск, Варняны Астравецкага раёна, Ашмяны і інш. ). Некаторыя аўстэрыі складаліся з комплексаў – з жылых, гаспадарчых, гандлёвых і іншых будынкаў, згрупаваныя вакол агульнага двара (Слуцк). Яны спатрэбіліся для тыпу паштовых станцый, гасцініц (у 2-й палове XVIII–XIX стст. ).

*Аўстэрыя ў в. Варняны Астравецкага раёна*



**АЎТАБІЯГРАФІЧНЫ ЖАНР** – жанр літаратурных твораў, у якіх аўтары дакладна ці ўскосна апісваюць уласнае жыццё. Да яго адносяць аўтабіяграфію, мемуары, дзённік, споведзь, падарожныя нататкі, у старажытнай літаратуры таксама дыярыуш. Яны падобныя на звычайныя мастацкія творы, толькі ў іх большая зачэпка канкрэтных падзей, асабістага.

Элементы аўтабіяграфізму ў беларускай літаратуры вядомыя са старажытных часоў (К. Тураўскі, Ф. Скарына і інш. ), у XIX ст. – у творах В. Дуніна-Марцінкевіча ("Шчароўскія дажынкі" і "Літаратурныя клопаты"), Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны; яшчэ больш выявіліся яны ў пачатку XX ст. – у творчасці Цёткі ("Зялёнка", "З дарогі" і "Успаміны з паездкі ў Фінляндыю"), Ядвігіна Ш. ("Лісты з дарогі", "Успаміны"), М. Гарэцкага ("У лазні", "Роднае карэнне"). Плённа працягнуў развівацца гэты жанр у 1920 – 30-ыя гады – "Палескія аповесці" Я. Коласа, "На імперыялістычнай вайне", "Камароўская хроніка" М. Гарэцкага, "У дрымучых лясах" Зм. Бядулі. 1 пазней беларускія пісьменнікі часта звярталіся да гэтага жанру: апавяданні і мініяцюры, раман "Птушкі і гнёзды" Я. Брыля, пенталогія "Трывожнае шчасце" І. Шамякіна, апавяданні, аповесці, ваенная трылогія І. Навуменкі, "Сцежкі" А. Пальчэўскага, "Споведзь" Л. Геніюш, раман "У падзямеллі" М. Аўрамчыка, апавяданні і аповесці С. Грахоўскага, І. Чыгрынава, Б. Сачанкі, Г. Далідовіча, А. Федарэнкі, дзённікавыя запісы М. Танка, П. Панчанкі, В. Адамчыка, празаічныя ўспаміны Н. Гілевіча. Шмат аўтабіяграфічнага ў многіх вершах і паэмах беларускіх пісьменнікаў. Выйшлі тры кнігі аўтабіяграфій літаратараў: "Пяцьдзесят чатыры дарогі" (1963), "Пра час і сябе" (1966), "Вытокі песні" (1973), якія ахапілі аўтабіяграфіі тых, каму сёння пад 70 гадоў.

**АЎТАГРАФІЯ** – адзін са спосабаў выканання мастацкай літаграфіі. Мастак малюе не на камені, а на спецыяльнай пераводнай – аўтаграфскай паперы, з якой малюнак пераносіцца на камень.

**АЎТАЛІТАГРАФІЯ** – від літаграфіі, пры якой выяву на камень наносіць мастак-аўтар у адрозненне ад рэтапрадукцыйнай літаграфіі, дзе арыгінал перамалёўвае на камень мастак-літограф.

У беларускім мастацтве аўталітаграфію пачалі выкарыстоўваць у першай палове XIX ст. у літаграфскіх майстэрнях пры Віленскім універсітэце. У сучасным беларускім мастацтве найбольш пашыраны від літаграфіі, бо амаль усе творы гэтай тэхнікі выконваюцца пры актыўным удзеле аўтараў-мастакоў. Вядомыя аўтары ў гэтай тэхніцы – А. Паслядовіч, А. Кашкурэвіч, В. Шаранговіч, У. Савіч, М. Селяшчук.

**АЎТАНІМ** – сапраўднае імя аўтара, які друкуецца пад псеўданімам: Янка Купала – Іван Дамінікавіч Луцэвіч, Якуб Колас – Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, Кузьма Чорны – Мікалай Карлавіч Раманоўскі, Максім Танк – Яўген Іванавіч Скурко і г.д.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасный – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дасылаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 01. 07. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1028.
Тыраж 1050.